№ 12 (3957)

www.nv-online.info

13 лютага 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Нервы не вытрымалі?

Карыстальнікі сацыяльных сетак заўважылі, як **Уладзімір Пуцін** падчас афіцыйных мерапрыемстваў зламаў ручку, і нават выклалі ў інтэрнэт фота гэтага моманту.

Такі ж самы выпадак, дарэчы, адбыўся і падчас прэс-канферэнцыі ў Растове былога ўкраінскага кіраўніка **Віктара Януковіча**, які збег з роднай краіны ў Расію.



**Гэта была вельмі доўгая ноч – з серады на чацвер, калі ў Мінску лідары Украіны, Францыі, Германіі і Расіі шукалі магчымасці для міру на Данбасе. І нават калі яна скончылася, пасля пятнаццаці гадзін перамоў, ужо бліжэй да абеду, з упэўненасцю нельга было сказаць, ці знойдзены шлях да міру.**

# Цяжкая ноч

Уладзімір Пуцін на перамовы, як заўсёды, спазніўся. Але, прыбыўшы нарэшце ў Палац Незалежнасці, пасміхаўся, павітаўся з Ангелай Меркель, як з добрай знаёмай, паціснуў руку прэзідэнту Украіны. Глядзеў, праўда, на Пятра Парашэнку хітра, знізу ўверх, з-пад ілба.

Як высветлілася, расіяне мелі так званы “раяль у кустах” – памочнік Уладзіміра Пуціна Уладзіслаў Суркоў прывёз у Мінск лідараў так званых ДНР і ЛНР Аляксандра Захарчанку і Ігара Платніцкага. Нібыта, яны – цалкам самастойныя фігуры і без іх зацвярджэння рашэнне кіраўнікоў краін нічога не будзе вартае. На дурняў, канешне, разлічаны сцэнарый. Але ён часткова спрацаваў.

З ночы пратакольныя службы рыхтавалі вялікую залу, у якой павінна было адбыцца ўрачыстае падпісанне чатырма сусветнымі лідарамі “мірнай дамовы” па Украіне, журналістаў нават запусцілі ў гэтую залу, каб настроілі тэхніку, падрыхтавалі мікрафоны і... нібы сурочылі.

“Перамовы ідуць супер!” – хваліўся журналістам міністр замежных спраў Расіі Сяргей Лаўроў, які час ад часу выходзіў папаліць.

“Перамовы ідуць цяжка”, – у сваю чаргу паведаміў прадстаўнік украінскага МЗС Яўген Перабійніс.

У тры гадзіны ночы стала вядома, што кіраўнік МЗС Германіі Франк-Вальтэр Штайнмаер адклаў запланаваны вылет у Паўднёвую Амерыку і застаецца ў Мінску. Гэта было першым сур’ёзным сведчаннем таго, што на шляху да міру з’явіліся непрадбачаныя цяжкасці.

Перамовы ішлі цэлую ноч. У вузкім фармаце, у шырокім фармаце, з членамі дэлегацый, без членаў дэлегацый... Нарэшце, ужо каля васьмі гадзін раніцы, прыйшла добрая навіна: дакументы амаль цалкам узгоднены, хутка адбудзецца ўрачыстае падпісанне. Вось тут і зайграў той самы раяль у кустах: расійскі бок настойліва запатрабаваў, каб прадстаўнікі “ЛНР” і “ДНР” (прасцей кажучы – кіраўнікі сепаратыстаў) таксама падпісаліся пад дамоўленасцямі.

Зразумела, што ні Ангела Меркель, ні Франсуа Аланд са злачынцамі (а для цывілізаванага свету лідары сепаратыстаў Данбаса -- гэта злачынцы) весці перамовы не маглі пагадзіцца. Падрыхтаваныя паперы павёз у “Дыпсэрвісхол” Уладзіслаў Суркоў – гэта было яшчэ адно месца ў Мінску, дзе не спалі цэлую ноч. Тут, у Вайсковым завулку, традыцыйна засядае так званая “кантактная група” па ўрэгуляванні сітуацыі на ўсходзе Украіны. Працавала яна і на гэты раз. Так бы мовіць, паралельна з прэзідэнтамі.

Прачытаўшы тое, да чаго кіраўнікі дзяржаў шляхам саступак і кампрамісаў прыйшлі на працягу ночы цяжкіх перамоў у Палацы Незалежнасці, сепаратысты адказалі: “Не падпішам! Не згодныя!” Гэта быў момант, калі здавалася, што ўсё пойдзе пад адхон. У многіх назіральнікаў ад такой навіны проста здалі нервы: “Ды хто яны такія?! Арыштаваць трэба прама ў Мінску як тэрарыстаў! Чаго з імі цацкацца?..”

Прадстаўнікі ўкраінскай дэлегацыі свае высновы зрабілі хутка. «Захарчанка і Платніцкі не падпісваюць кампраміс, узгоднены Парашэнкам, Меркель і Аландам з Уладзімірам Пуціным. Робяць яны гэта па інструкцыі саміх расіян, якія працуюць на зрыў дамоўленасцяў і на дэманстрацыю таго, нібыта “ДНР” і “ЛНР” – самастойныя суб’екты перамоў», – прыкладна такія каментарыі загучалі з украінскага боку. І, трэба сказаць, небеспадстаўныя каментарыі. Бо што былі б гэтыя “ДНР” і “ЛНР” без падтрымкі Расіі? Нішто! Вы можаце паверыць, што Уладзімір Пуцін не можа прыняць рашэнне самастойна, без нейкага Захарчанкі ці Платніцкага?..

Але вось як усё перавярнулася.

Нам цяжка сказаць, што выкраслілі з падрыхтаваных дакументаў нібыта пад ціскам кіраўнікоў “ЛНР” і “ДНР”. Але відавочна, што канчатковы тэкст -- гэта не тое, на што першапачаткова разлічвалі Парашэнка, Меркель і Аланд. Таму і не адбылося ніякага ўрачыстага падпісання. Таму і не адбылося ніякай сумеснай прэс-канферэнцыі “міратворцаў”.

Пуцін выйшаў да журналістаў і прызнаўся, што гэта была не лепшая ноч у яго жыцці. Але надзея на мір застаецца.

Ангела Меркель і Франсуа Аланд з’ехалі ў аэрапорт спешна, не зрабіўшы зусім ніякіх, нават пратакольна-фармальных заяў.

Пётр Парашэнка выходзіў, нібы несучы цяжкую ношу на сваіх плячах. Аляксандр Лукашэнка, які ў якасці гаспадара таксама правёў у Палацы Незалежнасці ўсю ноч, хаця ў перамовах не ўдзельнічаў, на развітанне абняў яго, як самага роднага...

Ці стане вынікам гэтай доўгай ночы мір на Данбасе? Час пакажа.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**



## Декларация «нормандской четверки»

*На сайте Кремля опубликована Декларация президентов Украины, Франции, РФ и канцлера Германии в поддержку Комплекса мер по выполнению Минских соглашений, принятого 12 февраля.*

«Президент Украины Петр Порошенко, президент Франции Франсуа Олланд, канцлер ФРГ Ангела Меркель и президент РФ Владимир Путин подтверждают полное уважение суверенитета и территориальной целостности Украины. Они твердо убеждены в безальтернативности исключительно мирного урегулирования. Они всецело готовы предпринять любые возможные меры как по отдельности, так и совместно в этих целях.

В этом контексте лидеры одобряют Комплекс мер по выполнению Минских соглашений, принятый и подписанный в Минске 12 февраля 2015 года всеми, кто также подписал Минский протокол от 5 сентября 2014 года и Минский меморандум от 19 сентября 2014 года. Лидеры будут вносить вклад в этот процесс и использовать свое влияние на соответствующие стороны, чтобы способствовать выполнению этого Комплекса мер.

Германия и Франция окажут техническую поддержку для восстановления сегмента банковской системы в затронутых конфликтом районах, возможно, путем создания международного механизма для содействия осуществлению социальных выплат.

Лидеры разделяют убеждение в том, что укрепление сотрудничества между Европейским Союзом, Украиной и Россией будет способствовать урегулированию данного кризиса. В этих целях они поддерживают продолжение трехсторонних переговоров между Европейским Союзом, Украиной и Россией по вопросам энергетики с тем, чтобы осуществить шаги в развитие «зимнего газового пакета».

Они также поддерживают трехсторонние переговоры между Европейским Союзом, Украиной и Россией в целях выработки практического решения вопросов, вызывающих обеспокоенность России, в связи с выполнением Соглашения о глубокой и всеобъемлющей зоне свободной торговли между Украиной и Европейским Союзом.

Лидеры по-прежнему привержены идее создания общего гуманитарного и экономического пространства от Атлантики до Тихого океана на основе полного уважения международного права и принципов ОБСЕ.

Лидеры будут и впредь привержены выполнению Минских соглашений. С этой целью они договорились о создании контрольного механизма в «нормандском формате», который будет проводить встречи с регулярной периодичностью, как правило, на уровне старших должностных лиц, представляющих министерства иностранных дел».

**ЯЗЫКОМ ДИПЛОМАТИИ**

Встречами в «нормандском формате» принято называть переговоры лидеров России, Украины, Германии и Франции, а также представителей МИД этих стран, в ходе которых обсуждаются вопросы урегулирования украинского кризиса. Подобные встречи проводились на высшем уровне дважды, на уровне глав МИД – четыре раза.

Название «нормандский» закрепилось за этим международным форматом после первой личной встречи президентов России и Украины Владимира Путина и Петра Порошенко, которая состоялась 6 июня 2014 года в Уистреаме (Ouistreham, Франция) в ходе мероприятий в честь 70-летия высадки союзников в Нормандии.

**ПАЗІЦЫЯ**

## *Пётр ПАРАШЭНКА, прэзідэнт Украіны:*

**«Гэта было няпроста, і фактычна нам выстаўлялі ўсялякія непрымальныя ўмовы, адыходы, здачы. Мы не пайшлі ні на якія ўльтыматумы і выразна праявілі пазіцыю, што спыненне агню павінна адбыцца без папярэдніх умоў».**

**ТРЫВОЖНЫ ЗНАК**

## *Уладзімір ПУЦІН:*

***– Праблема першапачаткова заключалася ў тым, што прадстаўнікі Данецкай і Луганскай народных рэспублік сцвярджаюць, што ў адказ на агрэсіўныя дзеянні кіеўскіх улад яны не толькі стрымалі атакі арміі, сілавых структур Кіева, але і, перайшоўшы ў наступленне, акружылі значную групоўку, ад шасці да васьмі тысяч чалавек. І яны, вядома, зыходзяць з таго, што гэтая групоўка складзе зброю і спыніць супраціў. Мы ўсё ж такі заклікаем абодва бакі праяўляць стрыманасць і ў пазбяганне залішняга непатрэбнага кровапраліцця і ахвяр зрабіць усё для таго, каб развядзенне войскаў і галоўным чынам цяжкай тэхнікі прайшло без лішняга, нікому не патрэбнага кровапраліцця. Прадстаўнікі кіраўніцтва Украіны мяркуюць, што акружэння няма, і таму яны лічаць, што ўсё пройдзе дастаткова спакойна. У мяне першапачаткова былі сумневы, я з вамі гатовы імі падзяліцца. Калі сапраўды такое акружэнне мае месца, то, зыходзячы з нармальнай логікі, тыя, хто ў акружэнні, будуць рабіць спробы з яго вырвацца, а тыя, хто знаходзіцца звонку, будуць рабіць спробы арганізаваць калідор для выхаду сваіх вайскоўцаў. Але мы дамовіліся з прэзідэнтам Парашэнкам пра тое, што дамо даручэнні – я гатовы гэта зрабіць са свайго боку – нашым ваенным экспертам, каб устанавіць, што ж усё-такі на самай справе адбываецца цяпер у рэальнасці.***

***

У гэтых словах Уладзіміра Пуціна, сказаных журналістам амаль пад самы канец мінскай сустрэчы, многія ўбачылі трывожны знак.

Украінскі бок сцвярджае, што ніякага “катла” няма, што ніякага акружэння няма. Украінская армія ў раёне Марыупаля прыціскае сепаратыстаў усё бліжэй да расійскай мяжы, вызваляючы сваю зямлю. Больш неадназначная сітуацыя ў раёне Дэбальцава. Хаця ўчора раніцай паведамлялася, што ўкраінскі канвой з байцоў 128-й горна-пяхотнай брыгады вывез параненых з Дэбальцаўскага плацдарма. Атрымліваецца, што і там “катла” няма ці ён быў прарваны ўкраінскімі вайскоўцамі. Але ўчора і пазаўчора так званае “апалчэнне” сцягвала туды ўсе сілы. Не выключана, што разлік робіцца на тое, што за два дні, якія засталіся да спынення агню, “кацёл” будзе створаны.

## *Расійскія журналісты скандалілі...*

Падчас прыезду ў Палац Незалежнасці прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі журналіст **Павел Зарубін** з тэлеканала «Россия» крыкнуў яму: *«Спадар Парашэнка, чаму вашы войскі бамбяць мірныя гарады?»*

Ахова вывела журналіста з залы, а ахоўнік паведаміў іншым прадстаўнікам СМІ, што іх калега зусім выдалены з Палаца за правакацыйныя дзеянні.

Праўда, як аказалася пазней, “не выдалены”. Дзве гадзіны скандаліст прасядзеў у прэс-цэнтры, а пасля яму дазволілі выйсці.

## *...і брахалі*

Напярэдадні пачатку перамоў лідараў дзяржаў у Палацы Незалежнасці адзін з расійскіх журналістаў тэлеканала LifeNews **Аляксандр Юнашаў** забрахаў на ўкраінскіх калег па-сабачаму, калі тыя ў яго нешта запыталіся.

Галоўны рэдактар расійскага прапагандысцкага тэлеканала LifeNews **Анатоль Сулейманаў** адразу ж у “Твітары” заступіўся за Юнашава і заявіў, што на месцы журналіста проста *“обос..л бы таких коллег”.*

Яблыка ад яблыні недалёка падае...

**ЗАКУЛІССЕ**



## На правах гаспадара

У Палацы Незалежнасці ўдзельнікаў “нармандскай групы” сустракаў Аляксандр Лукашэнка. Дзень 12 лютага 2015 года ў інтэрнэце жартаўліва назвалі днём дыпламатычнага трыумфу Лукашэнкі: усё ж такі не часта за 20 гадоў прэзідэнцтва яму даводзілася сустракацца з кіраўнікамі такога рангу. Гэтыя здымкі абляцелі ўвесь свет: беларускі лідар дорыць кветкі Ангеле Меркель, ажно дзвюма рукамі цісне руку Франсуа Аланду, шчыра вітае Пятра Парашэнку, абдымае Уладзіміра Пуціна.

Журналісты адзначылі: Лукашэнка на сустрэчы гасцей трымаўся падкрэслена ветліва, нават хваляваўся. Усмешка не сыходзіла з твару беларускага лідара. Супрацоўнікі службы аховы таксама былі падкрэслена карэктныя.

Аднак не абышлося без казусаў. Займальны відэафакт выклалі на сваіх старонках у інтэрнэце ўкраінскія СМІ: перад пачаткам перамоў Уладзімір Пуцін хоча прысесці і спрабуе пасунуць крэсла, але ў гэты час Аляксандр Лукашэнка, захоплены размовай з Ангелай Меркель, моцна трымаецца за прадмет мэблі і як бы не дае магчымасці Пуціну сесці...

Дарэчы, неспадзяванкі з крэсламі ўжо сталі нейкай заканамернасцю. У красавіку 2013 года на пасяджэнні Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета Аляксандр Лукашэнка сеў у крэсла, прызначанае для прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Праўда, хуценька выправіў памылку і пажартаваў, паўтарыўшы знакамітае выказванне першага прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына: “Не так селі”.

# Что подписали в Минске...

***На сайте Кремля опубликован «Комплекс мер по выполнению Минских соглашений», который подписан участниками трехсторонней контактной группы по урегулированию ситуации в Украине.***

1.Незамедлительное и всеобъемлющее прекращение огня в отдельных районах Донецкой и Луганской областей Украины и его строгое выполнение начиная с 00 ч. 00 мин. (киевское время) 15 февраля 2015 года.

2.Отвод всех тяжелых вооружений обеими сторонами на равные расстояния в целях создания зоны безопасности шириной минимум 50 км друг от друга для артиллерийских систем калибром 100 мм и более, зоны безопасности шириной 70 км для РСЗО и шириной 140 км для РСЗО «Торнадо-С», «Ураган», «Смерч» и тактических ракетных систем «Точка» («Точка У»):

– для украинских войск: от фактической линии соприкосновения;

– для вооруженных формирований отдельных районов Донецкой и Луганской областей Украины: от линии соприкосновения, согласно Минскому меморандуму от 19 сентября 2014 года.

Отвод вышеперечисленных тяжелых вооружений должен начаться не позднее второго дня после прекращения огня и завершиться в течение 14 дней.

Этому процессу будет содействовать ОБСЕ при поддержке Трехсторонней Контактной группы.

3.Обеспечить эффективный мониторинг и верификацию режима прекращения огня и отвода тяжелого вооружения со стороны ОБСЕ с первого дня отвода, с применением всех необходимых технических средств, включая спутники, БПЛА, радиолокационные системы и прочее.

4.В первый день после отвода начать диалог о модальностях проведения местных выборов в соответствии с украинским законодательством и законом Украины «О временном порядке местного самоуправления в отдельных районах Донецкой и Луганской областей», а также о будущем режиме этих районов на основании указанного закона.

Незамедлительно, не позднее 30 дней с даты подписания данного документа, принять постановление Верховной Рады Украины с указанием территории, на которую распространяется особый режим в соответствии с законом Украины «О временном порядке местного самоуправления в отдельных районах Донецкой и Луганской областей» на основе линии, установленной в Минском меморандуме от 19 сентября 2014 года.

5.Обеспечить помилование и амнистию путем введения в силу закона, запрещающего преследование и наказание лиц в связи с событиями, имевшими место в отдельных районах Донецкой и Луганской областей Украины.

6.Обеспечить освобождение и обмен всех заложников и незаконно удерживаемых лиц на основе принципа «всех на всех». Этот процесс должен быть завершен самое позднее на пятый день после отвода.

7.Обеспечить безопасный доступ, доставку, хранение и распределение гуманитарной помощи нуждающимся на основе международного механизма.

8.Определение модальностей полного восстановления социально-экономических связей, включая социальные переводы, такие как выплата пенсий и иные выплаты (поступления и доходы, своевременная оплата всех коммунальных счетов, возобновление налогообложения в рамках правового поля Украины).

В этих целях Украина восстановит управление сегментом своей банковской системы в районах, затронутых конфликтом, и, возможно, будет создан международный механизм для облегчения таких переводов.

9.Восстановление полного контроля над государственной границей со стороны правительства Украины во всей зоне конфликта, которое должно начаться в первый день после местных выборов и завершиться после всеобъемлющего политического урегулирования (местные выборы в отдельных районах Донецкой и Луганской областей на основании закона Украины и конституционная реформа) к концу 2015 года при условии выполнения пункта 11 – в консультациях и по согласованию с представителями отдельных районов Донецкой и Луганской областей в рамках Трехсторонней Контактной группы.

10.Вывод всех иностранных вооруженных формирований, военной техники, а также наемников с территории Украины под наблюдением ОБСЕ. Разоружение всех незаконных групп.

11.Проведение конституционной реформы в Украине со вступлением в силу к концу 2015 года новой конституции, предполагающей в качестве ключевого элемента децентрализацию (с учетом особенностей отдельных районов Донецкой и Луганской областей, согласованных с представителями этих районов), а также принятие постоянного законодательства об особом статусе отдельных районов Донецкой и Луганской областей в соответствии с мерами, указанными в примечании, до конца 2015 года. *(См. примечание.)*

12.На основании закона Украины «О временном порядке местного самоуправления в отдельных районах Донецкой и Луганской областей» вопросы, касающиеся местных выборов, будут обсуждаться и согласовываться с представителями отдельных районов Донецкой и Луганской областей в рамках Трехсторонней Контактной группы. Выборы будут проведены с соблюдением соответствующих стандартов ОБСЕ при мониторинге со стороны БДИПЧ ОБСЕ.

13.Интенсифицировать деятельность Трехсторонней Контактной группы, в том числе путем создания рабочих групп по выполнению соответствующих аспектов Минских соглашений. Они будут отражать состав Трехсторонней Контактной группы.

**Примечание**

Такие меры в соответствии с законом «Об особом порядке местного самоуправления в отдельных районах Донецкой и Луганской областей» включают следующее:

– освобождение от наказания, преследования и дискриминации лиц, связанных с событиями, имевшими место в отдельных районах Донецкой и Луганской областей;

– право на языковое самоопределение;

– участие органов местного самоуправления в назначении глав органов прокуратуры и судов в отдельных районах Донецкой и Луганской областей;

– возможность для центральных органов исполнительной власти заключать с соответствующими органами местного самоуправления соглашения относительно экономического, социального и культурного развития отдельных районов Донецкой и Луганской областей;

– государство оказывает поддержку социально-экономическому развитию отдельных районов Донецкой и Луганской областей;

– содействие со стороны центральных органов власти трансграничному сотрудничеству в отдельных районах Донецкой и Луганской областей с регионами Российской Федерации;

– создание отрядов народной милиции по решению местных Советов с целью поддержания общественного порядка в отдельных районах Донецкой и Луганской областей;

– полномочия депутатов местных Советов и должностных лиц, избранных на досрочных выборах, назначенных Верховной Радой Украины этим законом, не могут быть досрочно прекращены.

*Документ подписали участники Трехсторонней Контактной группы:*

Посол **Хайди Тальявини**

Второй президент Украины **Леонид Кучма**

Посол РФ в Украине **Михаил Зурабов**

**Александр Захарченко**

**Игорь Плотницкий.**

